Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкаю да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 14. Вільня, Субота, 14-га лютага 1925 г. Год I.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Характэрныя факты.

За апошнія дні ў польскай унутранай палітыцы здарыліся два факты, якія, як ня трэба лепш, характарызуюць кірунак гэтае палітыкі.

Факты гэтыя: *забарона пасольскіх мітынгаў* без спэцыяльнага дазволу ўлады і прынятае адміністрацыйнай камісіяй Сойму закона аб *кругавой паруцы насяленьня ў выпадках бандыцкіх нападаў*.

Зьмест цыркуляра новага міністра ўнутраных спраў, які фактычна касуе арт. 108 канстытуцыі аб свабодзе сходаў, чытачы знойдуць у аддзеле хронікі—у перакладзе віленскае дэлегатуры. Цыркуляр п. Ратайскага нават абшарніцкае „Słowo" лічыць „спрэчным з канстытуцыяй, паскольку ён адносіцца да пасольскіх вечаў",—а іменна проці гэтых вечаў і скіравана забарона ўраду. Цэлы рад пасольскіх клюбаў (а перад усім Беларускі Пасольскі Клюб) падаюць сьпешныя прапазіцыі ў Сойм, пратэстуючы проці нарушэньня канстытуцыйных свабод, якія, згодна з арт. 124 тэй-жа канстытуцыі, могуць быць абмяжаваны ці часова скасаваны толькі Радай Міністраў (а не *адным* з міністраў!) з дазволу Прэзыдэнта Рэспублікі—дый то толькі „ў часе вайны, ці калі пагражае выбух вайны, а такжа ў выпадку ўнутраных разрухаў ці шырокае змовы, маючай характар дзяржаўнае здрады, пагражаючай канстытуцыі гаспадарства або бясьпечнасьці грамадзян".

Калі прыпомнім цяпер сыстэматычную брахню эндэцкае прэсы і нялічаныя фальшывыя даносы ўладзе на паслоў апазіцыі, што яны быццам то надужываюць свабоды пасольскіх мітынгаў і вядуць процідзяржаўную агітацыю, калі паставім побач з гэтым адкрытыя выступленьні эндэкаў і абшарнікаў проці польскае канстытуцыі і істнуючага дзяржаўнага ладу, а таксама ня менш адкрытую агітацыю за зьмену гэтага ладу на манархічны,—дык ясна будзе, што цыркуляр п. Ратайскага ёсьць ня што іншае, як выяўленьне перамогі ўплываў на ўрад п. п. Грабскага-Тугутта *польскае рэакцыі*.

Ня менш характэрна пастанова адміністрацыйнае камісіі Сойму аб *кругавой паруцы* насяленьня ў выпадку бандыцкіх нападаў. Праўда, прадстаўнікі ўсіх польскіх партыяў, хоць паддаюцца тым-жа ўплывам, якія пакіравалі пяром міністра Ратайскага, стараюцца гаварыць, як кажуць, „дыпляматычна": соймавая камісія на паседжаньні сваім 29 студзеня с. г., ня гледзячы на рашучы пратэст беларускага дэпутата Ярэміча, прыняла тэкст закону, якім старосты ўпаўнаважываюцца прыцягіваць насяленьне да нішчэньня бандытызму і... *абкладываць гэтае-ж насяленьне кантрыбуцыяй на карысьць пацярпеўшых ад бандыцкіх нападаў*. І гэта-ж ёсьць ня што іншае, як зьдзейсьненьне дамаганьняў абшарнікаў на тайнай нарадзе іх з п. Тугуттам у бытнасьць апошняга ў Вільні,—хаця кругавая парука абыймае *толькі матэрыяльны бок справы*.

Ня будзем даўжэй затрымлівацца над палітычнай ацэнкай абодвух прыведзеных фактаў: хай гэтым займуцца нашы дэпутаты ў Сойме. Але мы ня можам моўчкі прайсьці міма практычных вынікаў апошняе пастановы адміністрацыйнае камісіі, паскольку гэтая пастанова будзе прынята і Соймам.

Грашавая адказнасьць нашага сялянства за страты панскіх двароў ці асаднікаў ад бандыцкіх нападаў—гэта, пры агульным абядненьні нашае вёскі, зьяўляецца *перакладаньнем матэрыяльнае руіны з адзінак—на масы*. Дый нельга гаварыць аб запраўднай руіне дворнае гаспадаркі ад таго ці іншага рабунку: ёй заўсёды стане на падмогу ўрад, розныя банкі і т. п., і яшчэ ня было такога выпадку, каб той ці іншы пан зруйнаваўся да банкруцтва ад бандыцкага нападу. Але, калі страты яго будуць яму пакрываць акалічныя *сяляне*, дык *вёсцы*—пры сучасным яе матэрыяльным палажэньні—*пагражае запраўдная руіна і голад*.

Мала таго: правядзеньне ў жыцьцё пастановы адміністрацыйнае камісіі творыць *грунт для розных надужыцьцяў*: вельмі-ж ужо лёгка і заманчыва сымуляваць „напад бандытаў" і спаліць *пустое* гумно, калі ёсьць надзея, што акалічныя сяляне пакрыюць ня толькі кошт таго, што запраўды згарэла, але і таго, што *не гарэла зусім*...

Вось аб гэтых практычных выніках кругавое парукі мы лічым сваей павіннасьцяй голасна заявіць пакуль час,—пакуль пастанова адміністрацыйнае камісіі ня сталася яшчэ законам.

---

З прычыны ўзросту коштаў выдавецтва (значнае павялічэньне платы наборшчыкам і друкарні ад 1-га лютага), а такжа з увагі на тое, што значная частка нашых падпішчыкаў не парупілася аплаціць належныя за мінулы час грошы,—мы, каб не павялічываць цаны газэты, прымушаны да часу ўрэгуляваньня даўгоў падпішчыкамі выпускаць нашу часопісь **раз у тыдзень**, за тое ў павялічаным размеры.

**Чытачы!** Ад вас залежыць прысьпяшэньне ўзнаўленьня нармальнага выпуску „Беларускае Долі"!..

## Перамога работніцкае салідарнасьці.

Барацьба паміж II (сацыялістычным) і III (камуністычным) інтэрнацыяналамі за апошнія гады выяўлялася ў вельмі вострых формах. Ад партыйных вярхоў яна перакінулася ў работніцкія масы, і вось у Нямеччыне мы бачылі крывавыя баталіі між работнікамі-сацыялістамі і работнікамі-камуністамі. Ня менш ярка гэтая барацьба выяўляецца ў Польшчы, дзе найбольш заядлымі ворагамі камуністаў зьяўляюцца польскія сацыялісты (P. P. S.).

Рэч зусім зразумелая, што ўсё, што дзеліць работніцкія масы на варожыя ўзаемна групы і кірункі, робіць вялізарную шкоду справе вызваленьня працоўных ад панаваньня капіталу. І, гледзячы на тое, як работнікі ў партыйнай барацьбе самі-ж нішчаць свае сілы, так патрэбныя дзеля клясавага змаганьня, — капіталісты ўсяго сьвету толькі пацíралі рукі ад радасьці: іх вораг відавочна слабеў і дэзарганізоўваўся.

Першыя пачалі адчуваць ненармальнасьць такога палажэньня іменна работніцкія масы. Даўно ўжо на вярхох сацыялістычных і камуністычных партыяў пачала выяўляцца думка аб патрэбе неяк пагадзіць, ці хоць-бы да часу замірыць абодва інтэрнацыяналы. Але да дзела тут справа не даходзіла. За зьдзейсьненьне яе ўзяліся самі работнікі.

І вось, як апавяшчае тэлеграма ПАТ-а, генеральная рада сындыкалістычнага інтэрнацыяналу, разважыўшы пытаньне аб адносінах паміж амстэрдамскім (II) і маскоўскім (III) інтэрнацыяналамі, большасьцяй галасоў прыняла рэзалюцыю, **каб усерасейскі прафэсіянальны саюз** (камуністычны!) **быў прыняты ў склад міжнародавага прафэсіянальнага саюзу** (сацыялістычнага), калі таго сам зажадае. Аначасна міжнародавы прафэсіянальны саюз абвяшчае, што ён гатоў **адбыць канфэрэнцыю з усерасейскім прафэсіянальным саюзам.**

Гэты крок урэшце ўвядзе работніцкія арганізацыі ССРР у сусьветную агульна-работніцкую сям'ю, што, бясспрэчна, меціме вялізарную вагу ня толькі для пралетарыяту ССРР, але і для клясавага змаганьня працоўных наагул. Гэты крок нязвычайна ўзмацуе пазіцыю работніцкае клясы на ўсенькім сьвеце і дапаможа працоўным пакіраваць усе свае сілы ў адным кірунку: у кірунку перамогі работніцкае клясы над тэй клясай, якая сяньня пануе над працоўнымі.

**Фалькевіч.**

## Англія—і ўсходнія межы Польшчы.

„Gaz. Warsz." друкуе гэткую вестку: „Лёнданская газэта „Observer", якая выяўляе пагляды англійскае „лявіцы", займаецца ў апошнім нумары справай умовы аб гарантыях такжа і граніц Польшчы. Газэта піша, што Англія гатова далучыцца да забясьпечаньня граніц Францыі, Галяндыі і Бэльгіі,— аднак, жэнеўскі пратакол павінен быць перагледжаны ў такім кірунку, *каб Англія ня была адказнай за цяперашнія граніцы Польшчы на ўсходзе* (гданскі калідор і т. д.). *Граніцы гэныя немагчыма ўтрымаць*,—пытаньне толькі, ці яны маюць быць зьменены шляхам вайны, ці міравое рэвізіі".

## „Робяць“ польшчыну.

*(М-ка Вішнева. Валожынскага пав.).*

Гмінны пісар Сарока, швагер Валожынскага Павятовага Старасты, на гэтых днях сабраў усіх солтысаў—каталікоў, якіх паінфармаваў „сакрэтна“, што ў скорым часе будзеце рабіць перапісь насяленьня, дзеля школ, дык каб гэтыя солтысы пісалі як мага балей палякамі (гэта ёсьць: каб рабілі палякоў з беларусаў), дзеля таго, каб ня было ніводнае беларускае школы ў гэтай гміне.

Сяляне беларусы кажуць: „Няхай пішуць нас хоць чарцямі, мы іх пісаньню й абяцанкам ня верым і дэкларацый інспэктару складаць ня будзем, бо гэта ўсё дарэмна. Няхай відзяць людзі ўсяго сьвету, як нас паны вучаць“. **Прахожы.**

**Ад Рэдакцыі.** Сумна, што вішнеўцы, зьняверыўшыся ў магчымасьці нейкага палягчэньня нашага жыцьця, апускаюць рукі і на ўсё згодны. Гэтай дарогай мы нічога не даб‘емся! Наадварот, усе як адзін, **павінны падаваць дэкларацыі і дабівацца свайго!..**

## „Арышты і вобыскі“.

*(З Дзісеншчыны).*

У часе праваслаўных Каляд па Празароцкай вол. адбыліся арышты і вобыскі. Пачатак іх быў гэтакі. У самую калядную куцьцю быў арыштаваны жых. вёскі Руднікі, нейкі Гаўрыльчык, якога абвінавачывалі ў хадзьбе заграніцу і пыталіся аружжа. Арыштаванаму Г. налажылі кайданы і паліцыянт павёў яго ў Празарокі на пастарунак. Г., відаць, спужаўся арышту і ўцёк ад паліцыянта. Хутка Г. быў злоўлены на граніцы і ўжо быў без кайданоў. Г. добра „пачаставалі“ і адправілі ў Глыбокае, гдзе Г., відаць, да нечага „прызнаўся“ і мусіў што небудзь на каго небудзь паказаць.

Толькі праз два тры дні атрад салдат, чалавек 20, з паліцыяй і вывядоўцамі—у баявым парадку позна ўвечары прыйшоў у вёску Руднікі, шукалі і пыталіся: аружжа, хто хавае бандытаў, хто ходзіць заграніцу і г. д. Тое самае рабілі і ў вёсцы Кульгаі.

Жыхара вёскі Руднікі паўхворага, паўдурнога Яна Каршулёнка 16 — 18 г., прывадзілі на граніцу і штурхалі яго на той бок, каб ён паказаў дарогу, па якой ён хадзіў,—але хлапец плачучы вяртаўся. Тады вывядовец разоў шэсьць ударыў па твару, яго адпусьцілі дамоў. Як сьведку, узяліся дапрашываць 6—8 гадовага хлопчыка сына жых. вёскі Руднікі, Ядвігі Хвядзьковіч. У такога „dorosłego“ сьведкі пыталіся і пра аружжа, і пра бандытаў, страшылі застрэліць, трактавалі цукеркамі,—толькі нічога ня вышла. У Рудніках арыштавалі чал., 6, гэтулькі-ж у Кульгаях, адну дзяўчынку ў вёсцы Верацеі, хлапца Дзягеля ў вёсцы Ёсты, 4 чал. ў вёсцы Доўгае і некалькі ў ваколіцах вёскі Псуя.

У вёсцы Псуя мелі арыштаваць былую вучыцельку расейскае школы, жых. гэтай-жа вёскі Ганну Шчансновіч. Даведаўшыся аб гэтым, А. С. з упуду напілася атруты, і ў вельмі цяжкім стане яе адвязьлі ў шпіталь да Глыбокага. У вёсцы Псуя арыштавалі вучыцеля польскае школы Клімашэўскага, якога засталі ў кватэры Ганны Ш. Ганна Ш. гэтымі днямі памёрла.

Усюды пыталіся і шукалі аружжа і нейкай „баявой арганізацыі“.

Большую частку арыштаваных ужо адпусьцілі. Звольненыя кажуць, што біць іх ня білі, толькі трохі „далі“ дзеля страху ну, і за гэта дзякуй,—рукі, вочы, галава цэлыя,—дык гэта-ж і ня біцьцё.

Прыходзе на ўспамін сакавік у 1923 гаду, калі 14/III, як шаранча наляцела на Дзісеншчыну паліцыя I-га вокругу (вярнуўшыся з трыумфальнага заняцьця нэйтральнае паласы на Літоўскай граніцы), якія вярнулі ў хатах усё дагары нагамі, хапалі сустрэчных на дарозе людзей, і вязьлі ў Зябкі. У Зябках спакавалі 62 чал. у адзін таварный вагон, гдзе трымалі $1^1/_2$ сутак. У ліку арыштаваных былі два сьвяшчэньнікі і некалькі кабет. Кабеты ад духаты і цясноты млелі. Арыштаваных адвязьлі ў Глыбокае, гдзе гэтак-жа пыталіся пра нейкія баявыя арганізацыі, пра падгатоўку паўстаньня. а на‘т пра батарэі—якія недзе крыюцца ў лясох (добра, што ня ў шуфлядах). Усіх тады пазвальнялі,—а колькі ж галасу, гоману, зьдзеку бясправўя.

Некалькі паламаных вінтовак, некалькі выстрэляных артылер. гільзаў, ды пустых вінтовачных патронаў — пан міністар у Сойме раздзьмуў у цэлыя склады аружжа і амуніцыі. **Зязюля.**

## Нават ноччу.

*(Вёска Вялікае Сяло, гміны Маладэчанскай).*

У Вялейскім Urzędzie Skarbowym урадоўцы сьцягаваць падаткі не лянуюцца. Яны так „працуюць“, што ім і дня не хапае. Па падаткі зьяўляюцца толькі ўначы і то тады, калі добрыя людзі зімой на вёсцы ўжо даўно сьпяць, бо аж а 9—10 гадзіне пасьля паўдня, а то і пазьней. Зьявіўшыся ў кумпаніі азброянай паліцыі ў хату, гэтыя ўрадоўцы адразу, не даючы бедным людзям апомніцца ад нагнанага страху, забіраюць апошнюю адзежу, апісаваюць апошнюю скаціну і нават ня раз апошні стол.

Не абходзіцца гэтае зьбіраньне і бяз кур‘ёзаў. Да адзінокай удавы (той-жа вёскі) Параскі Цар каля 10 гадзіны веч. раптам зьяўляюцца двух „паноў“: адзін азброены, у форме паліцыянта, другі цывільны, (солтыс гдзесьці застаўся) і дамагаюцца грошы. Жанчына з перапуду думае, што гэта бандыты, кажа, што грошы ў яе няма і пачынае прасіцца. „Госьці“, бачучы, што ў хаце нічагусенькі мудрага ня знойдзеш, загадаваюць кабеце вясьці іх у хлеў паказаваць жывёлу, гдзе і апісываюць апошняе сьвінчанё, запісаўшы яго ў пратаколе, як 13 тыднёвае парасё (а яно ўжо важыць добрыя 2 пуды).

Усё забранае і апісанае прадаецца пасьля з ліцытацыі, хоць аматараў купляць такія рэчы мала, а часамі зусім няма.

Ёсьць тут шмат бедных удоў, якія, ня гледзячы на грозьбы і просьбы, падатку ня плацяць, бо ня маюць з чаго, а забраць на падатак таксама няма чаго. З імі мае „гаварыць“ сам п. Стараста.

Што ім скажа п. Стараста, невядома (звольне ад падатку?), але бедныя ўдовы атрымалі ад солтыса загад сабрацца ў валасьці яго спатыкаць **Вясковы.**

## І ў нас так, як у людзей.

*(З Пастаўскай гм., Дунілавіцкага пав.).*

З усіх канцоў шмат пішуць аб дзеяльнасьці паліцыі. Але ў нас у Пастаўскай гміне дагэтуль яно-сабе было, пры старым каманданце Міхальку сяк-так. Быў нішто адзін камплект паліцыі. Але пасьля зьмянілі паліцыю. І ужо часьцей сталі шукаць варту, глядзець за табліцамі на вазох, за троха выпіўшымі людзьмі ў панядзелак і шмат за другімі парадкамі.

У адзін панядзелак два паліцыянты пачалі лавіць людзей, ішоўшых чыгункай. А йшлі мужыкі чыгункай за тое, што: 1) ня былі асьвядомлены праз свае ўлады, што хадзіць чыгункай ня можна; 2) што рака разьлілася, масту нет, абхадзіць дужа далёка, дык думалі сушэй перайсьці праз мост чыгункай.

Дужа насьмяяліся вясёлыя паліцыянты, як мужычкі сталі ўцякаць праз раку чуць ня ўплаў, а адзін у новым жоўтым кажуху, як уцякаў, дык заваліўся ў ваду.

Толькі смутна было на сэрцы ў бедных сялян. Пачаліся дапросы, трэбаваньне па некалькі разоў на пастарунак, кажуць, што некаторых звольнілі ад адпаведнасьці, другіх-жа завуць да Sądu Pokoiju.

**Малады Селянін.**

# З Радавае Беларусі.

### Б.С.Р.Р. на сусьветнай выстаўцы.

У чэрвені сёлетняга году ў Парыжу адкрываецца сусьветная выстаўка. На выстаўку пашлюць свае экспонаты і ўсе складовыя часьці С.С.Р.Р, — ведама, значыць і Радавая Беларусь. Грамадзянства апошняе вельмі зацікаўлена тым, каб, як сьлед, прадставіць на выстаўцы нашу Бацькаўшчыну.

### Прэзыдыум Інбелкульту.

„Słowo“ наказуе, што ў склд прэзыдыуму Інбелкульту Беларускае Культуры выбраны: Ігнатоўскі, Смоліч, Гэльтман, Аршанскі і інш.

На працу Інбелкульту урад вызначыў значныя крэдыты.

Як ведама, Інбелкульт, паводле новага статуту, мае характар Беларускае Акадэміі Навук.

### Высяленьне палякоў.

Як даведалася „Gaz. Warsz.“, Совнарком Радавае Беларусі выдаў дэкрэт аб высяленьні з межаў Беларусі ўсіх уласьнікаў маёнткаў - палякоў, якія арандавалі дагэтуль некалі належаўшую да іх зямлю і вялі на ёй гаспадарку. Высяленьне мае адбыцца ў працягу 2-х тыдняў.

Дэкрэт гэты выданы на падставе рэзалюцыі апошняга сялянкага зьезду.

# Юрыдычныя парады.

### 1) Падпішчыку № 1372.

**Пытаньне.** Зямля куплена ў 1912 г. за 1500 р. Купчае ня зроблена за вайною і ня выплачана яшчэ 500 р., але зямлёю валадаю з 1912 г. Маю дамовую расьпіску і многа сьведкаў пад прысягу, што я купіў. Насьледнік прадаўца хоча адабраць ад мяне гэтую зямлю. Па польскім законам ці можа ён адабраць і сколькі могуць прысудзіць цяпер залатых за 500 рублёў.

**Адказ:** Згодна з Уставам 2 ліпня 1924 г. № 669, трэба прасіць Акружны Суд аб прызнаньні зямлі за ўласнасьць. За 500 руб. з 1912 г. прыдзецца плаціць найбольш 1330 злотых, а суд можа прысудзіць і менш, або разлажыць на колькі гадоў.

### 2) Падпішчыку № 1604.

**Пытаньне:** У працягу трох гадоў дзяржу ад пана кусок зямлі каля 25 дзесяцін. Першыя два гады арандаваў, а паследні год дзяржу, як запашнік. Тэрмін канчаецца 23 красавіка. Цяпер пан адмаўляе мне мейсца. Ці падхаджу я пад які—колечы ўстаў аб абароне арандатараў, ці мушу ўступіць? А можа ёсьць надзея на зямельную рэформу?

**Адказ:** Цяпер пад Устаў аб абароне арандатару не падходзіце.

### 3) Рабочаму.

Дарога толькі адна: падаць на падрадчыка ў суд.

### 4) Падпішчыку № 1372.

За скаціну і коні падаткі плаціць кожны, хто мае скаціну ці коні.

### 5) Падпішчыку № 940.

Трэба зьвярнуцца да Інспэктара Працы.

### 6) Падпішчыку № 50.

I. Можна даходзіць ад брата сёмую частку зямлі і інвэнтара.

II. Пакуль жывець дзядзька, ён гаспадар сваей зямлі і можа адпісаць, каму захоча.

### 7) Падпішчыку № 1585.

**Пытаньні:** 1) У 1910 годзе зрабіў я кантракт на арэнду 4 дзес. зямлі на 6 гадоў, — знача, да 1915 г. У часе вайны гаспадар зямлі гэнае выехаў і яго няма, ды нічога аб ім невядома. Да гэтага году зямлёй карыстаўся я. Цяцер пляменьнік гаспадара па сястры падаў у суд, каб адабраць зямлю. У мяне ёсьць стары кантракт з гаспадаром. Ці можа пляменьнік адабраць зямлю?

2) Як легальна паехаць у ССРР?

**Адказы:** 1) Калі пляменьнік гаспадара хоча адабраць зямлю, то павінен даказаць мэтрыкамі, што той памер; інакш адабраць ня маець права.

2) Трэба ўзяць загранічны пашпарт і прасіць Расейскае Пасольства ў Варшаве, каб дазволіла пераехаць у ССРР.

### 8) Валюку ў Горадні.

На ўсе тры пытаньні адказ адзін: няма яшчэ падхадзячае ўставы.

Калі ёсьць нямецкія рэквізіцыйныя квіты, то трэба іх захаваць, бо цяпер у Парыжу сядзіць Камісія, каторая ябгаварываець справу заплаты немцамі за гэтыя квіты.

### 9) Я. Г. ў Горадзеншчыне.

Пакуль жыў дзед, зямля лічылася яго, а па яго сьмерці павінна перайсьці да насьледнікаў. Цётка ваша па закону маець права на **сёмую** часьць, а на **шэсьць сёмых**—вы, як сын, дзедавага сына. Не напісалі, калі выдадзены вэксаль; ад гэтага залежыць, ці варты ён чаго, ці не.

# Паштовая скрынка.

Ад: В. Царука, Пятра Саколіча, Канст. Каруноса, Эмільяна Казіміpука, Аляксея Анцупевіча, Юльяна Сянюты, А. Угліка, А. Казлоўскага, Ігн. Біньдзюка, Язэпа Гапановіча, Зьмітра Боцела, Яна Леванчука, Тодара Чэрнагрэбьева, Аляксандра Смалонскага, Палескага Ваяводзтва, С. Мазурэка, Пятра Мышкі, Васіля Клімко, Канст. Матусэвіча, Яна Кубліцкага, Тамаша Белановіча, Канст. Касьцюкевіча, Аляксан. Малойло, Казімера Маліноўскага, Аляксан. Ляончыка, Аляксея Іванава, Міхала Пілецкага, Казімера Жэрко, Максіма Гавенчыка, Юркі Паўлоўскага, Алесі Каньчук, М. Буйвала, М. Трыны, Яна Мукасея, Аляксея Леонавеца, Аляксан. Канончыка, М. Корбута, Мірона Місюка, Язэпа Трапейкі, Нікіфара Савіча, Язэпа Саньчука, Мацея Казла, Сьцяпана Клімовіча, Чургана, Мікалая Жыбуртовіча, Сымона Палудзеня, Мікалая Ліхуты, Гаўрылы Касьцюковіча, Якавіцкага, Тодара Дундава, Паўла Міхалевіча, Рыгора Пучко, Васіля Сокала, Мікалая Тарасіка, Аляксан. Гірыса, Яна Дашкоўскага, Паўла Ярашэвіча, Андрэя Стэльмаха, Аляксан. Голуба, Паўла Сакоша—атрымалі **па 2 злоты.**

Ад: Ант. Юрыка, Згрунда, Юрыя Зімніцкага, Тодара Казлоўскага—атрымалі **па 3 злоты**



Рэдактар-Выдавец Антон Пракапеня.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.